Гродна
№18 (500),
7 кастрычніка 2018

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# ПАПА ФРАНЦІШАК ДА МОЛАДЗІ Ў ВІЛЬНЮСЕ: “НЕ БОЙЦЕСЯ РАБІЦЬ СТАЎКУ НА ХРЫСТА!”



22 І 23 ВЕРАСНЯ ПАПА ФРАНЦІШАК З АПОСТАЛЬСКІМ ВІЗІТАМ ЗНАХОДЗІЎСЯ Ў ЛІТВЕ, НАВЕДВАЮЧЫ ВІЛЬНЮС І КАЎНАС. ПАНТЫФІК БЫЎ ЗУСІМ БЛІЗКА – ЗА 169 КМ АД ГРОДНА, ШТО НАВАТ БЛІЖЭЙ, ЧЫМ МІНСК.

● працяг на с. 3

“Сустрэча з вамі ўмацоўвае нашу веру і наш дух”. Папа Францішак




### XXVII ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Мк 10, 2–12**

Падышлі фарысеі да Езуса і, выпрабоўваючы Яго, спыталіся, ці дазволена мужу разводзіцца з жонкаю? Ён сказаў ім у адказ: "Што наказаў вам Майсей?". Яны сказалі: "Майсей дазволіў пісаць разводны ліст і разводзіцца". А Езус сказаў ім у адказ: "Дзеля жорсткасці сэрца вашага ён напісаў вам гэтую запаведзь, бо на пачатку стварэння Бог стварыў іх мужчынам і жанчынай. Таму пакіне мужчына бацьку свайго і маці сваю і злучыцца са сваёй жонкай, і будуць двое адным целам. Так што яны ўжо не двое, але адно цела. Таму тое, што Бог злучыў, чалавек няхай не разлучае".

У доме вучні зноў спыталіся ў Яго пра гэта. Ён сказаў ім: "Хто развядзецца з жонкаю сваёю і ажэніцца з іншай, той чыніць распусту ў дачыненні да яе. І калі жонка развядзецца з мужам сваім і выйдзе за іншага, чыніць распусту".

### СВЯТАСЦЬ СУЖЭНСТВА

Вучэнне Езуса аб непарыўнасці шлюбу асабліва цяжка прыняць людзям XXI стагоддзя, паколькі сённяшні свет забыўся пра вялікае значэнне сям'і. Многія людзі крытыкуюць Касцёл, абвінавачваючы яго ў тым, што не ідзе ў нагу з часам і не разумее сучасных праблем. Таму зараз можна заўважыць, як сістэматычна і паслядоўна падрываюцца і высмейваюцца такія вартасці, як сапраўднае каханне, вернасць, адданасць, чыстасць, святасць сужэнства...

Маладыя людзі, якія засноўваюць сям'ю, забываюцца, што любоў і шчасце будуюцца, а не бяруцца ў крэдыт. Не прыкладваюць ніякіх намаганняў, а толькі чакаюць, што гэта само прыйдзе ім у рукі. А калі так не адбываецца, адразу хочуць выйсці з заключанага саюзу, апраўдваючыся, што проста ўсё не атрымалася, не было выканальным.

Але ж пабудаваць добрае і шчаслівае сужэнства магчыма! Аб гэтым сведчыць прыклад мноства цудоўных сем'яў, якія жывуць ва ўсім свеце. Як сцвярджае бразільская прымаўка, "у добрым сужэнстве сустракаюцца неба і зямля".

Мы ўсе павінны старанна маліцца аб моцных і шчаслівых сем'ях. Іх вернасць і любоў з'яўляюцца надзвычай моцным сведчаннем для блукаючага свету.

**Што раблю, каб не дапусціць крызісу свайго сужэнства?**

**Як дапамагаю сужэнствам, што перажываюць крызіс?**

### XXVIII ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Мк 10, 17–27**

Калі Езус вырушыў у дарогу, падбег да Яго адзін чалавек, упаў перад Ім на калені і спытаўся ў Яго: "Настаўнік добры, што мне зрабіць, каб атрымаць у спадчыну жыццё вечнае?". Езус сказаў яму: "Чаму называеш Мяне добрым? Ніхто не ёсць добрым, толькі адзін Бог. Ты ведаеш запаведзі: не распусьнічай, не забівай, не крадзі, не сведчы ілжыва, не ашуквай, шануй бацьку свайго і маці". А той сказаў Яму ў адказ: "Настаўнік, усё гэта я захоўваў з маладосці маёй". Езус, паглядзеўшы на яго, умілаваў яго і сказаў: "Табе нестае аднаго, ідзі, прадай усё, што маеш, і раздай убогім, і будзеш мець скарб у небе. Тады прыходзь і ідзі за Мною". А ён засмуціўся ад гэтых слоў і адышоў маркотны, бо ў яго была вялікая маёмасць. Езус паглядзеў навокал і сказаў сваім вучням: "Як цяжка будзе тым, хто мае багацце, увайсці ў Валадарства Божае!". Вучні ж дзівіліся словам Ягоным. Але Езус зноў сказаў ім у адказ: "Дзеці, як цяжка тым, хто спадзяецца на багацце, увайсці ў Валадарства Божае. Лягчэй вярблюду прайсці праз вушка іголкі, чым багатаму ўвайсці ў Валадарства Божае". А яны яшчэ больш здзіўляліся і казалі адзін аднаму: "Хто ж можа збавіцца?". Езус, зірнуўшы на іх, сказаў: "У людзей гэта немагчыма, але не ў Бога; бо ў Бога ўсё магчыма".

### УМЕЛАЕ КАРЫСТАННЕ БАГАЦЦЯМІ

Хрыстос прыгадвае нам, што для таго, каб быць сапраўдным хрысціянінам, недастаткова толькі выконваць Божыя запаведзі: не забіваць, не красці, не распусьнічаць, не падманваць... Верны Яго паслядоўнік павінен патрабаваць ад сябе чагосьці большага. Павінен пераймаць Настаўніка і будаваць на зямлі распачатае Ім Валадарства.

Для гэтага хрысціяніну належыць мець добрае сэрца, якое адкрыта на бліжніх. Багацці ж, у сваю чаргу, небяспечныя, бо нярэдка займаюць месца, якое належыць самому Богу, становячыся перашкодай на шляху збаўлення. Напашванне зямных скарбаў нагулха закрывае чалавечае сэрца на патрэбы іншых, часта робіць людзей бяздушнымі эгаістамі, якія жывуць толькі для сябе. Аднак, як нехта добра заўважыў, "Неба здабываецца за грошы, якія мы ахвяравалі іншым".

**Ці рацыянальна выкарыстоўваю даброты, якімі мяне адарыў Бог?**

**Ці здольны дзяліцца з бяднейшымі за мяне людзьмі?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Папа пілігрым

*ІІ Ватыканскі сабор унёс неацэнны ўклад ва ўнутранае аднаўленне Касцёла. Між іншым, пасля яго змяніўся статус Святога Айца, які раней лічыўся "вязнем Ватыкана". З таго часу біскупы Рыма вырушылі ў свет, адбываючы свае апостальскія падарожжы ў розныя краіны.*

Аднойчы раніцай у пэўнай рымскай парафіі 11-гадовы хлопчык спытаўся ў Яна Паўла ІІ: "Святы Айцец, нашошта Вы ўвесь час ездзіце па свеце?". Гэтае дзіцячае пытанне, здаецца, вынікае з меркавання, што біскуп Рыма не павінен часта пакідаць Вечны Горад. А паколькі сфера паслугі Папы з'яўляецца паўсюднай, лічыцца, што Рым – гэта тое месца, дзе належыць вырашаць праблемы Паўсюднага Касцёла. Адказ Пантыфіка быў вельмі простым: "Я так шмат ездж, таму што не ўвесь свет знаходзіцца тут...".

Апостальскія падарожжы вельмі неабходныя для лакальных Касцёлаў. Гэта цудоўная нагода, каб прыглядзецца да таго, чым жыве канкрэтная супольнасць і з якімі праблемамі яна сутыкаецца. Такія візіты з'яўляюцца таксама добрай падставай, каб звярнуцца да праблемы пакрыўджаных, каб заклікаць да будавання міжасобасных адносін на падмурку годнасці і праў чалавека.

Па прыкладзе сваіх папярэднікаў у свет вырушыў папа Францішак. У канцы верасня ён здзейсніў сваё 25-ае замежнае апостальскае падарожжа. На гэты раз яго прымалі ў Літве, Латвії і Эстоніі. Падчас візіту ў гэтыя Балтыйскія краіны Святы Айцец шматразова заахвочваў тлумы вернікаў выйсці па-за ўласныя межы і адправіцца "на перыферыю, дзе заўсёды можна знайсці Езуса, прысутнага ў жыцці брата – пакутуючага, нікому не патрэбнага".

Пасланне, якое Францішак пакінуў у Літве, вельмі важнае і красамоўнае, бо скіравана кожнаму. Мы павінны мець адвагу стаць тварам да твару з іншымі, павінны таксама памятаць, што трэба заўсёды прымаць Езуса: у Яго Слове, у Эўхарыстыі, у бедных. "Прыняць Яго, каб з'яднаў нашу памяць і спадарожнічаў на шляхах жыцця, якое маем прысвячаць служэнню іншым з радасцю, і праз гэта ўказваць, што Езус Хрыстус – наша адзіная надзея", – сказаў Святы Айцец.

**Дарагія Чытачы!**

Няхай сустрэча з папам Францішкам, якую некаторыя з нас перажылі рэальна, выехаўшы з Гродзенскай дыяцэзіі ў якасці пілігрымаў, а іншыя – пры дапамозе сродкаў масавай інфармацыі, будзе чарговай нагодай, каб запрасіць Езуса Хрыста ў сваё жыццё. Няхай яна стане – асабліва для маладых людзей – фундаментам будучыні, на якім варта будаваць далейшае жыццё. Давайце надалей спадарожнічаць Святому Айцу сваёй адданай малітвай і любячым сэрцам у яго пілігрымаванні па дарогах свету!




# СВ. ЯН XXIII: ЗАСТУПНІК АПОСТАЛЬСКІХ НУНЦЫЯЎ



*У іканаграфіі св. Ян XXIII прадстаўлены ў папскім уборы.*

**Яго называюць "добрым папам Янам", "Янам усміхнутым" і "Янам пакорным". У памяці вернікаў застаўся як асоба з вялікай душой, поўнай жывой веры і любові да бліжняга. У яго сардэчным і зычлівым выразе твару бачылі адлюстраванне самога Бога. З'яўляецца, між іншым, заступнікам экуменічнага руху.**

**ПРЫСТАСАВАЎ КАСЦЁЛ ДА СУЧАСНАСЦІ**

Анджэла Джузэпэ Ранкалі нарадзіўся 25 лістапада 1881 года ў Італіі ў бедней сялянскай сям'і. Яго маці была вельмі веруючай асобай. Нарадзіла 11 дзяцей, з якіх Анджэла быў 4-ым.

Маючы 12 гадоў, хлопец паступіў у ніжэйшую духоўную семінарыю ў Бергама, якая была ў той час адным з самых прэстыжных месцаў адукацыі будучых святароў. Пасля атрымання стыпендыі за добрыя вынікі ў вучобе быў пераведзены ў Рымскую папскую семінарыю. У 1902 годзе перапыніў навучанне на год, каб адбыць ваенную службу. Пасля яе заканчэння абараніў дактарат па тэалогіі і прыняў святарскія пасвячэнні.

Як маладому святару Анджэла Ранкалі даручылі функцыю сакратара біскупа Бергама Джакама Радзіні Тэдэскі. У той жа час ён выкладаў у семінарыі, быў рэдактарам бюлетэня "Дыяцэзіяльнае жыццё", супрацоўнічаў таксама з іншым мясцовым каталіцкім часопісам, быў душпастырам "Каталіцкай акцыі". Запісваў свае духоўныя нататкі, якія пазней былі выдадзены пад назвай "Дзённік душы". Натхняўся пастаай святых: Караля Барамея, Францішка Сальскага і Рыгора Барбарыгі.

У 1925 годзе атрымаў біскупскія пасвячэнні. Сваім дэвізам абраў словы "Obedientia et Pax" ("Паслухмянасць і супакой"). У наступныя гады выконваў функцыі апостальскага дэлегата ў Балгарыі, у Турцыі і Грэцыі (па чарзе), а таксама Апостальскага нунцыя ў Парыжы.

У 1953 годзе Анджэла Ранкалі атрымаў тытул кардынала і стаў патрыярхам Венецыі. У 1958 годзе, пасля смерці Пія ХІІ, падчас 3-дзённага канклава быў выбраны Папам і ўзяў імя Ян XXIII. На працягу чарговых 4-ох гадоў рыхтаваўся да ІІ Ватыканскага сабора. Гэты сабор ініцыяваў новы спосаб прысутнасці Касцёла ў свеце, заклікаў да адновы жыцця. У наступстве ён даў таксама імпульс да паяднання з хрысціянскімі Касцёламі і дыялогу з іншымі рэлігіямі.

Ян XXIII памёр пасля цяжкай хваробы 3 чэрвеня 1963 года. Беатыфікаваны 3 верасня 2000 года Святым Айцом Янам Паўлам ІІ, кананізаваны 27 красавіка 2014 года папам Францішкам.

**ЧАМУ МЫ МОЖАМ НАВУЧЫЦЦА Ў СВ. ЯНА XXIII?**

Святы пакінуў людзям пасланне, каб заўсёды шукалі тое, што павінна іх аб'ядноўваць, а не раздзяляць. Шукалі тое, што супольнае, каб маглі ісці далей, справіцца з магчымымі адрозненнямі, шукалі дарогі да больш дасканалай еднасці, якая дазваляе вырашаць вялікія праблемы сучаснага чалавека і супрацьстаяць ім.

**ЦІКАВА!**

Упершыню ў гісторыі Касцёла Ян XXIII як Папа прыняў на аўдыенцыі англіканскага арцыбіскупа кентэрберыйскага Джэфры Фішэра. Ён быў таксама першым Пантыфікам, які наведаў прэзідэнта Італіі ў Квірынале. Дзякуючы намаганням Святога Айца Каталіцкі Касцёл удзельнічаў у ролі назіральніка ў асамблеі Сусветнай рады Цэркваў, якая праходзіла ў Дэлі ў 1961 годзе.

**З ВУСНАЎ СВЯТОГА**

"1 добрая маці вартая стольні, колькі 100 настаўнікаў".

**ЛІТУРГІЧНЫ ЎСПАМІН**

Касцёл узгадвае св. Яна XXIII 11 кастрычніка, у гадавіну склікання ІІ Ватыканскага сабора.

*Кс. Юрый Марціновіч*

# ПАПА ФРАНЦІШАК ДА МОЛАДЗІ Ў ВІЛЬНЮСЕ: “НЕ БОЙЦЕСЯ РАБІЦЬ СТАЎКУ НА ХРЫСТА!”

● працяг са с. 1



## СТАЦЬ АПОСТАЛАМІ, КАБ ПЕРАДАЦЬ ЗМЕСТ ПАЧУТАГА Ў СВЕТ

З Гродзенскай дыяцэзіі на сустрэчу са Святым Айцом у Літву выехала шматлікая група пілігрымаў: біскупы мясцовага Касцёла Аляксандр Кашкевіч і Юзаф Станеўскі, маладыя людзі з розных парафій дыяцэзіі на чале з адказным за душпастырства моладзі кс. канонікам Антоніем Грэмзам, навучэнцы Вышэйшай духоўнай семінарыі, а таксама святары і кансэкраваныя асобы.

***“Папа вельмі людскі, прыветлівы і радасны. Ён умее слухаць і гэтым пакарае сэрцы”,*** – падзяліўся ўражаннямі ад сустрэчы дапаможны біскуп дыяцэзіі Юзаф Станеўскі. Іерарх даў нават адмысловы наказ той частцы каталіцкай моладзі з Гродзеншчыны, якая змагла пабачыць наступніка св. Пятра на свае вочы: ***“Усё, што пачулі тут, вы павінны таксама занесці іншым. Не толькі самім напаліць сваё сэрца духоўным словам, але і стаць апосталамі, каб перадаць змест пачутага ў свет”.***



Біскуп Юзаф прызнаўся, што лічыць гэтую пілігрымку “лекцыяй па рэлігіі”, якую трэба запомніць на ўсё жыццё, а асабліва высновы з гэтай лекцыі.

## НЕ ПЕРАБЛЫТАЦЬ ДАРОГУ З ЛАБІРЫНТАМ

Падчас сустрэчы з літоўскай моладдзю ў Вільнюсе, дзе былі таксама і асобныя групы пілігрымаў з Беларусі, Польшчы, Украіны, Расіі, Пантыфік падтрымаў маладых людзей словамі: ***“Вера ў Хрыста часта патрабуе высілкаў, каб зрабіць «скачок у невядомасць», што заўсёды страшна. Але будзьце адважныя!”.***

Папа Францішак адзначыў, што жыццё – гэта заўсёды дарога, на якой чалавек шукае ўласны накірунак, не баючыся павярнуць, калі зробіць памылку. ***“Самае небяспечнае – пераблытаць жыццё з лабірынтам: з бессэнсоўным блуканнем па крузе, вакол саміх сябе, замест таго, каб шукаць дарогу, якая вядзе наперад. Не будзьце моладдзю ў лабірынце, з якога цяжка выйсці, але моладдзю ў дарозе, якая мае трывалы арыенцір – Хрыста,*** – заклікаў Святы Айцец. – ***Не бойцеся зрабіць стаўку на Хрыста, прыняўшы Яго справу – справу Евангелля. Ён ніколі не сыйдзе з чаўна вашага лёсу, заўсёды будзе стаяць на скрыжаваннях жыццёвых дарог, ніколі не перастане змагацца за вас, нават калі часам самі стараецеся сябе знішчыць”.***

Нібы рэфрэнам гучалі словы Пантыфіка на развітанне: ***“Многія будуць хацець заняць вашыя сэрцы, засадзіўшы палеткі імкненняў пустазеллем, але памятайце, што ў выніку, калі аддамо жыццё Хрысту, заўсёды пераможа добрая пшаніца”.***

## ПІЛІГРЫМЫ ПРА ЎРАЖАННІ АД СУСТРЭЧЫ

Ганна Карчэўская, як і яе сяброўка Алена Цыбулька, прыехалі ў Вільнюс у складзе групы пілігрымаў з Гродна, з катэдральнай парафіі св. Францішка Ксаверыя. ***“Мне вельмі хацелася сустрэцца з Папам, пачуць штосьці менавіта для сябе,*** – адзначае Ганна. – ***Хоць я ніколі не бачыла яго ўжывую, мела ўражанне, што сустракаюся з родным чалавекам. Заўсёды сачу за выказваннямі Святога Айца, Пантыфік увесь час прамаўляе глыбока ў сэрца. Вельмі рада за літоўскую моладзь і крыху нават зайздрошчу: сам Папа прыехаў на сустрэчу да яе! Вось бы і нам так!”.*** Алена з усмешкай дадае: ***“Гродна мог бы таксама прыняць Папу. Увогуле, калі выбіраць месцы для пілігрымкі Пантыфіка на беларускую зямлю, то, мяркую, Гродна і Будслаў нельга было б абмінуць ні ў якім разе”.***

Алег Баланцэвіч у Вільнюс прыехаў з мінскай парафіі Маці Божай Будслаўскай. Для юнака такі выезд з каталіцкай моладдзю – першы ў сваім родзе. І адразу да Папы! ***“Раней я бачыў Пантыфіка толькі па тэлевізары. Прыемна, што ў Вільнюсе сабралася столькі маладых людзей. Наш пробашч заўжды кажа, што моладзь – гэта фундамент свету. Я перакананы, што тыя, хто сёння сабраўся тут, ніколі не дапусцяць вайны”,*** – гаворыць Алег.

Для брэстчанкі Валерыі Бойка, якая атрымлівае адукацыю ў Польшчы, на такіх сустрэчах вельмі важная атмасфера. Дзяўчына прызнаецца: ***“Пакуль навучальны год толькі пачынаецца, хачу насыціцца гэтай атмасферай радасці і малітвы. Папа для мяне як сапраўдны прарок: гаворыць блізка для народа і мудра”.***

Сярод іншых беларусаў на сустрэчы была і Кацярына Адамчык з Мінска, прадстаўніца Беларусі на Перадсінадальнай сустрэчы моладзі ў Ватыкане. ***“Я прымала ўдзел у абмеркаванні перадсінадальнага дакумента, які мы распрацоўвалі з моладдзю ўсяго свету,*** – распавядае Кацярына. – ***Вельмі спадзявалася, што Папа хаця б часткова выкарыстае пункты з таго дакумента ў сваёй прамове”.*** І сапраўды. Святы Айцец у прамове да літоўскай моладзі некалькі разоў рабіў спасылкі на перадсінадальны дакумент. Першымі пра гэта даведаліся журналісты: у прэс-цэнтры прамова Папы была перакладзена на 6 моў. У кожнай з моўных версій былі асобна пазначаны месцы, у якіх Пантыфік цытаваў перадсінадальны дакумент моладзі.

## МАЎКЛІВАЕ І ВЫРАЗНАЕ ЗАПРАШЭННЕ Ў БЕЛАРУСЬ

У катэдры свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Каўнасе папа Францішак сустрэўся з духоўнымі і кансэкраванымі асобамі, у тым ліку з Гродзенскай дыяцэзіі. У сустрэчы таксама прынялі ўдзел семінарысты Вышэйшай духоўнай семінарыі. Пантыфік заклікаў прысутных быць засяроджанымі на Богу, вернымі Яго любові, імкнуцца заўсёды быць побач са сваім народам, з патрабуючымі, асабліва з тымі, якіх іншыя адкідваюць або асуджаюць.

Кс. Юрый Пракапюк, які служыць у Мазыры (Пінская дыяцэзія), адзначае, што ўвесь час заахвочвае сваіх парафіян быць салідарнымі з папам Францішкам, услухоўвацца ў яго заўжды асаблівыя прамовы: ***“Прысутнасць у Літве пілігрымаў з Беларусі – гэта як чарговае запрашэнне Папе Рымскаму прыехаць у нашу краіну. Вельмі чакаем яго ў Беларусі!”.***

*Ільля Лапата,*
*фота catholic.by*

# СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### *Папа Францішак*



*Стаўленне вучняў Езуса чалавечае, яно вельмі часта сустракаецца і ў хрысціянскіх супольнасцях усіх часоў, верагодна, і ў нас саміх. У духу добрай волі, нават з вялікай стараннасцю мы хацелі б захаваць аўтэнтычнасць пэўнага досведу, асабліва харызматычнага, бароначы заснавальніка або лідара ад ілжывых наступнікаў. Але адначасова з гэтым з’яўляецца занепакоенасць з нагоды “канкурэнцыі”, што нехта можа скрасці новых паслядоўнікаў. У выніку, мы не можам цаніць тое добрае, што робяць іншыя: ён не ў парадку, бо “не наш”… Езус заклікае нас сёння не думаць катэгорыямі “сябар / вораг”, “мы / яны”, “уваходзіць у групу / па-за ёй”, “маё / тваё”, але ісці наперад і адкрыць сваё сэрца, каб быць у стане прызнаць Яго прысутнасць і дзеянне Бога нават у незвычайных і непрадказальных сітуацыях і ў людзях, якія не належаць да нашага асяроддзя. Ідэя заключаецца ў тым, каб звярнуць увагу больш на аўтэнтычнасць рэалізацыі дабра, прыгажосці і праўды, чым на імя і паходжанне тых, хто яго робіць. І замест таго, каб судзіць іншых, мы павінны праверыць сябе і “адрэзаць” бескампрамісна ўсё, што можа знеахвоціць слабога чалавека ў веры.*

*Фрагмент прамовы перад малітвай “Анёл Панскі” ў Ватыкане, 30.09.2018*

### *Кс. бп Юзаф Станеўскі*



*Езус сёння сярод нас і прабывае з намі. Дзякуем Яму за таямніцу Эўхарыстыі, за дар нашай з Ім супольнасці, за бацькоў і родных, за малітоўную памяць дзядуль і бабуль. Дзякуем проста за родны край, за атмасферу любові і згоды, разумення і ўзаемнай дапамогі… Вандруючы праз жыццё, мы, можа, неаднойчы не ўсведамляем прысутнасць Езуса. Але менавіта гэтая прысутнасць – жывая і верная, прысутнасць, якая адчуваецца ў Божым слове і Эўхарыстыі, прысутнасць у супольнасці людзей веруючых, адкупленых Крывёю Хрыста. Гэтая прысутнасць з’яўляецца неўміручай крыніцай чалавечай сілы. Езус побач з намі ў добрыя хвіліны і ў час выпрабавання. “Вось стаю каля дзвярэй і стукаю. Калі хто пачуе Мой голас і адчыніць дзверы – увайду да яго” (Ап 3, 20), – кажа Збаўца. Тыя людзі, што адкрыліся на Хрыста таксама павінны ведаць, што многія адкідваюць Яго і высмейваюць. Таму калі ў будаванні дома вашага жыцця сустрэнеце тых, хто пагарджае Евангеллем, не губляйце ахвоту. Наша вера ў Езуса мусіць часта супрацьстаяць нявер’ю іншых, каб загартавацца і стаць моцнай верай назаўсёды.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай падчас урачыстасці 550-годдзя ўтварэння парафіі і 200-годдзя касцёла свсв. Космы і Дам’яна ў Астраўцы, 30.09.2018*




◆ У Рыме (Італія) афіцыйна распачаўся працэс беатыфікацыі К'яры Карбэла Петрыла. Гэтая маладая жанчына адышла ў вечнасць на 28-ым годзе жыцця. Падчас цяжарнасці ў яе дыягнаставалі рак. Аднак жанчына адмовілася ад тэрапіі, каб даць немаўляці нарадзіцца. Да гэтага яна перажыла смерць 2-ух дзяцей-інвалідаў, якія памерлі адразу пасля нараджэння. Урачыстую св. Імшу на адкрыццё дыяцэзіяльнага этапа беатыфікацыі ўзначаліў кард. Анджэла Дэ Данаціс, папскі вікарый для рымскай дыяцэзіі. "Яе ахвяра, – сказаў кардынал, – нібы марскі маяк: нясе надзею, сведчыць аб веры ў Бога і дае прыклад любові, большай за страх і смерць".

◆ 53-ці Сусветны дзень сродкаў масавай камунікацыі ў 2019 годзе пройдзе на тэму "«Мы ўсе адно» (Эф 4, 25). Ад вэб-суполкі да чалавечых супольнасцей". Яе выбар пацвярджае ўвагу папы Францішка да новага асяроддзя камунікацыі і сацыяльных сетак, асабліва там, дзе ён прысутнічае асабіста са сваім акаўнтам @Pontifex у Твітэры і @Franciszek у Інстаграме. Тэкст папскага паслання на Сусветны дзень сродкаў масавай інфармацыі будзе па традыцыі абвешчаны ў дзень літургічнага ўспаміну заступніка журналістаў св. Францішка Сальскага – 24 студзеня.

◆ Пры падтрымцы дзяржавы і грамадскіх арганізацый, у тым ліку і дабрачыннага таварыства "Карытас", у Партугаліі аднавілі каля 200 дамоў, якія згарэлі падчас вялікага пажару ў кастрычніку мінулага года. Агонь некалькі дзён знішчаў вялікія тэрыторыі лясоў і сельскагаспадарчых угоддзяў. Яго было складана пагасіць з-за моцных парываў ветру і спякоты. Стыхійнае бедства забрала тады жыццё 50-ці чалавек. Катаклізм стаў 2-ой хваляй пажараў, якія прайшлі ў гэтых краях у 2017 годзе. Усяго ў іх загінула 112 чалавек.

◆ У неапалітанскім квартале Скемп з 1976 года жыве французскансская супольнасць. Пад манастыр прыстасаваны цягнік, які некалі належаў дзяржаўнай чыгунцы. Манастыр вядомы як "Прыстанак душы". Складаецца з 5-ці вагонаў, у якіх размясціліся капліца, келлі, канфесіянал, майстэрня і пакоі для гасцей. Манахі жывуць ва ўмовах поўнай беднасці, прысвячаючы сябе малітвам і клопату над найбольш патрабуючымі.

◆ Адзін з самых вядомых тэнараў свету Андрэа Бачэлі запісаў песню "Fall on me" ("Упадзі на мяне"), якую можна пачуць на 2-юх мовах – англійскай і італьянскай. Андрэа спявае з сынам Матэа. Яны разам выказваюць веру і надзею ў крэпасць сямейных сувязей. Хочуць данесці, што сапраўдныя адносіны паміж бацькам і сынам поўныя даверу, незалежна ад таго, як складзецца жыццё. І нават калі чалавек не можа ўжо спадзявацца на свайго зямнога бацьку, павінен памятаць: ён ёсць, ён заўсёды побач.

credo.pro; niedziela.pl; aleteia.org

# РОДНАЯ ПРЫЁМНАЯ МАМА




***У вёсцы Багданава, якая ляжыць амаль на самай мяжы Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і Гродзенскай дыяцэзіі, жыве не зусім звычайная сям'я. Гэта мама Алена Дварэцкая, якая належыць да Інстытута кансэкраванага жыцця св. Тэрэзы, і 12 яе прыёмных дзяцей. Яшчэ ў 2001 годзе с. Алена нават не думала, што некалі з вялікай цеплынёй і любоўю прытуліць да сябе чужых хлопчыкаў і дзяўчынак і падорыць ім радасць сямейнага жыцця, але менавіта так аднойчы і сталася. Зараз прыёмная мама сваё рашэнне тлумачыць коратка і сціпла: "А хіба ж можна было інакш?".***

### ШЛЯХІ ГАСПОДНІЯ НЕВЫВЕДНЫЯ

Распачынаючы свой аповед, с. Алена падкрэслівае, што ніколі не планавала такога жыцця, якім жыве зараз. Яна нават не ведала, што на мапе Беларусі ёсць такая вёска Багданава і што лёс некалі яе туды закіне.

***"У Багданава я прыехала па просьбе аднаго знаёмага святара. Ён абяцаў даглёдзець паралізаваную бабулю, але мусіў выехаць з Беларусі, таму папрасіў мяне дапамагчы,*** – распавядае с. Алена. – ***Я ехала ў гэтую вёску ўсяго на месяц, але, як бачыце, ён цягнецца па сённяшні дзень. Нездарма кажуць, што калі хочаш насмяшыць Пана Бога, распавядзі Яму пра свае планы. Бабуля, якую я даглядала, у хуткім часе памерла, але ў вёсцы была яшчэ адна старэнькая жанчына, пра якую трэба было б паклапаціцца. Толькі мяне ўвесь час адольвалі сумненні: ці варта тут заставацца дзеля яе адной...".***

С. Алена не ўяўляла сябе ў ролі сядзелкі, не бачыла сэнсу жыць у напаўразбураным доме. Яна была разгублена і шмат малілася, прасіла Бога, каб адкрыў жыццёвы план для яе, падказаў, што рабіць далей, паколькі сястры было важна не размінуцца з воляй Усявышняга. І Бог яе пачуў.

***"Аднойчы я ішла ў магазін і ўбачыла дзяўчынку. Яна выглядала жудасна: запэцканая, худая, у старой паношанай сукенцы. На нагах у гэтага няшчаснага дзіцяці было нешта накшталт красовак, але без падэшваў. Мясцовыя прадаўшчыцы адразу перасцераглі, што падыходзіць да дзяўчынкі не варта, бо яна вашывая ды можа разносіць усякую заразу. Але я не прайшла міма, запрасіла небараку да сябе дадому,*** – узгадвае. – ***Там мы разам селі абедаць. Я наліла ў талерку суп, і дзіця, замест таго каб узяць лыжку, пачало чэрпаць яго рукамі. Я шмат чаго бачыла ў жыцці, але гэтая карціна выклікала ў мяне сапраўдны шок. Стала цікавіцца ў дзяўчынкі, дзе яе бацькі, дзе яе дом. Тая казала, што маці недзе бадзяецца, бацькі няма, а бабуля яе моцна крыўдзіць, таму прыйшлося ўцячы і пасяліцца, як зайчыку, пад елкай. Потым мы разам пайшлі паглядзець на месца яе прытулку. Недалёка ад вёскі пад вялікай елкай я сапраўды ўбачыла невялікі шалаш, зроблены з кардонных скрынак і старой вопраткі. Дзяўчынка спала ў такіх нечалавечых умовах нават зімой, пра што выразна гаварылі сляды абмаражэння на яе целе".***

Сястра падкрэслівае, што, згодна з апавяданнямі мясцовых жыхароў, небарака прыходзіла ў вёску да людзей, каб папрасіць паесці. Дзяўчынка ніколі сама не ўзяла нічога чужога, перабівалася тым, што дадуць: бульбай, хлебам, салам. Самае страшнае, што ўсе навокал ведалі пра трагедыю гэтага маленькага чалавечка, шкадавалі, казалі, якая дзяўчынка бедная і няшчасная, але не прымалі ніякіх мер.

***"Пасля нашай першай сустрэчы мы з Алесяй больш не расставаліся. Я пакінула дзяўчынку ў сябе, хоць не мела на той момант ні матэрыяльных, ні бытавых умоў,*** – падсумоўвае сястра. – ***Першае, што зрабіла, прывяла яе ў нармальны выгляд, хоць гэта было не зусім проста, бо калі першы раз купала Алесю, яна мяне ўсю скусала. Склалася ўражанне, што дзяўчынка страшэнна баіцца вады і што яе ніхто ніколі не мыў. 1 верасня мы пайшлі ў школу. Алесю было не пазнаць: з вялікім бантам на галаве, у акуратнай сукенчацы, з прыгожым букетам яна прыйшла на сваю першую лінейку. Настаўнікі і бацькі глядзелі з вялікім здзіўленнем. Ім цяжка было паверыць, што гэта тая ж Алеся, ад якой усе шарахаліся, калі сустракалі на вуліцы".***

З таго дня пачалося чарговае хаджэнне па пакутах гэтага дзіцяці. Пасля школы яна вярталася са слязамі, скардзілася, што дзеці з яе насміхаюцца, дражняць. Алеся была зусім не прыстасаваная да жыцця. У яе быў бедны слоўнікавы запас, не магла назваць словамі самыя элементарныя рэчы: лажок, кубак, дзень, ноч... С. Алена ўзгадвае, што калі ўпершыню дала ёй размалёўку, дзяўчынка ўсё цалкам замазала чорным алоўкам, і такім чынам адлюстравала сваё жыццё.

***"Калі я ўзяла Алесю, то не задумвалася, што будзе далей, не здагадвалася, што ў маім жыцці пачынаецца новы этап, мая новая місія,*** – гаворыць сястра. – ***Літаральна праз месяц да мяне ў дзверы пастукаліся яшчэ 2-ое дзяцей.***



***Дзяўчынцы Ані было 13 гадоў, а яе брату – 4. Мала таго, што яны жылі на вуліцы, дык яшчэ з'яўляліся грамадзянамі Расіі. Тут мы сутыкнуліся з сур'ёзнай праблемай: Аню не хацелі прымаць у школу з-за адсутнасці дакументаў.***

# ДОБРЫ АРГАНІСТ

***У жыцці кожнай парафіі вельмі важную ролю адыгрывае арганіст, які сваёй ігрой і спевам узвышае малітву, надае ўрачыстым характар св. Імшы, узбагачае набажэнствы і іншыя касцёльныя ўрачыстасці. Як правіла, ён нябачны для вернікаў, бо працуе на хорах.***

***У сённяшнім нумары "Слова Жыцця" раскажам пра Антонія Вішнеўскага – аднаго з самых старэйшых арганістаў Гродзенскай дыяцэзіі. Спадар Антоній на працягу 60-ці гадоў выконваў сваю паслугу ў Мсцібаве, Росі, Лунне, і да сёння іграе ў Воўпе. У памяці людзей застаецца як вельмі адказны і высакародны чалавек.***



### ДАРОГІ ЖЫЦЦЯ І ШЛЯХІ ТВОРЧАСЦІ

Арганіст Антоній Вішнеўскі мае 78 гадоў. Належыць да парафіі св. Яна Хрысціцеля ў Воўпе. Яшчэ будучы малым хлопцам, калі прыходзіў у касцёл, пазіраў на хоры, дзе стаяў прыгожы арган, і адчуваў жаданне зайграць на інструменце. Аднак тады нават падумаць не мог, што некалі гэта стане яго працай.

***"Любоў да музыкі мне прывіў мамін брат, які іграў на гармоніку. Я вучыўся разам з ім, а будучы падлеткам сам іграў для моладзі, што збіралася вечарамі на вёсцы,*** – расказвае спадар Антоній. – ***Бачачы маю любоў да музыкі, мама, веруючая і богабаязная жанчына, прапанавала мне прафесію арганіста. Я баяўся, што не спраўлюся, але вырашыў паспрабаваць".***

Так у 1955 годзе распачалася музычная прыгода спадара Антонія. На працягу 3-ох гадоў ён вучыўся асновам прафесіі ў мясцовага арганіста, а потым настаў час выпрабаваць здабытыя ўменні.

***"У 1958 годзе, падчас рэпатрыяцыі, многія жыхары навакольных вёсак выязджалі ў Польшчу,*** – узгадвае спадар Антоній. – ***Мой настаўнік даведаўся, што арганіст са Мсцібава таксама выязджае, і прапанаваў паспрабавацца на гэтае месца. Выпісаў мне адпаведны ліст, папярэдзіў, каб адразу не сядаў за інструмент, бо калі штосьці не атрымаецца, з мяне будуць смяяцца. У чарговую нядзелю я вырушыў у дарогу. Мясцовы арганіст адразу папрасіў зайграць. Я трохі хваляваўся, але адмовіцца не мог. Удалося добра. Адразу пасля св. Імшы мы пайшлі да кс. Казіміра Валентыновіча. Арганіст прадставіў мяне як свайго намесніка. Ксёндз са здзіўленнем паглядзеў на тады яшчэ вельмі маладога хлопца (мне адно споўнілася 18 гадоў), аднак у наступную суботу я ўжо іграў у мсцібаўскай парафіі на шлюбе. Праз 2 месяцы пасля мы з маім настаўнікам памяняліся: ён паехаў у Мсцібава, а я застаўся працаваць у сваёй роднай парафіі ў Воўпе, пробашчам якой быў кс. Іпаліт Ядкоўскі. Часам ездзіў іграць у касцёл у Росі".***

Антоній Вішнеўскі расказвае, што недалёка ад Воўпы, у вёсцы Эйсманты, жыў яго калега Гілярый Раманоўскі, які ахвотна дзяліўся з маладым арганістам сваім досведам, дазваляў перапісваць тэксты і ноты. ***"Тады ўсё пісалі ад рукі, нават нотных сшыткаў не мелі. Таму бралі спецыяльную прыладу, абмоквалі ў чарніла і малявалі на паперы пяцілінію, каб пазней запісаць ноты і тэкст,*** – распавядае спадар Антоній. – ***Гілярый прыязджаў да мяне кожны тыдзень. Мы разам ігралі і спявалі".***

Арганіст узгадвае, што пасля смерці пробашча парафія ў Воўпе засталася без пробашча. Тады кс. Рышард Вербель прапанаваў яму сталую працу ў касцёле ў Росі. ***"Але мы баяліся, што воўпенскі касцёл могуць закрыць, таму вырашылі, што я буду прыязджаць на галоўную Імшу а 10-ай гадзіне ў Рось, а на 13.00 буду вяртацца ў Воўпу. Я меў ключы ад касцёла, адкрываў яго і праводзіў набажэнствы. Нягледзячы на неахвоту з боку мясцовых улад, у святыні заўсёды збіралася вялікая колькасць вернікаў. На алтар мы клалі арнат і пачыналі малітву. Так адбывалася на працягу 22-ух гадоў",*** – дзеліцца арганіст.

Калі наступіў час рэлігійнай свабоды, Антоній Вішнеўскі працаваў у Росі і Лунне. Так пасля 20-ці гадоў працы ў гэтых парафіях ён вярнуўся ў свой родны касцёл у Воўпе, дзе да сённяшняга дня праз сваю ігру і спеў праслаўляе Пана Бога. Прызнаецца, што ва ўзросце 78-мі гадоў праца арганіста не даецца лёгка. Аднак, сядаючы за любімы інструмент, забываецца пра стомленасць. Арган, на якім іграе спадар Антоній, – гэта 9-галосны інструмент 1903 года, выкананы вядомай фірмай Вацлава Бярнацкага. ***"Ён ужо патрапаны часам, патрабуе аднаўлення, але іграць на ім – сапраўдная асалода",*** – падсумоўвае арганіст.

### БОЛЬШ ЧЫМ ІГРА

Разважаючы аб сваёй прафесіі, Антоній Вішнеўскі сцвярджае, што гэта не лёгкая праца, хоць на першы

*Прыйшлося напісаць цэлы стос папер і паручальніцтваў, каб вырашыць гэтае пытанне. Тым часам нас у доме станавілася ўсё больш: я, бабуля і 3-ое дзяцей. Трэба было неяк арганізоўваць свой быт, думаць, чым усіх накарміць, у што абуць і адзець. Праз некалькі месяцаў да нас прыйшло яшчэ некалькі бабуль. У доме ўжо катастрафічна не хапала месца, а наша паўсядзённасць складвалася з пошуку адказаў на пытанні "Што есці?", "Дзе спаць?". Ведаеце, я не веру ў цуды, але тое, што адбылося пазней, па-іншаму назваць нельга. Былі такія сітуацыі, што мы клаліся ўвечары спаць, а я не магла заснуць, бо не ведала, чым заўтра накарміць усіх гэтых людзей. Аднак пасля зразумела, што калі даверыцца Богу, Ён учыніць неверагодныя рэчы. Невядома адкуль прыходзілі незнаёмыя людзі, прыносілі ахвяраванні. Сапраўды, многае трэба было перажыць, каб выйсці на той узровень, на якім мы зараз знаходзімся. Патрэбна была як ахвяра дзяцей, так і мая ахвяра. Хрыстос, пакуль прынёс нам збаўленне, памёр на крыжы, і ў нашым выпадку таксама трэба было адпакутаваць, каб пачалася светлая паласа".*

Такім чынам, у доме с. Алены Дварэцкай напоўнілася новым сэнсам жыццё 16-ці дзяцей, сустрэлі сваю старасць 9 бабуль, якіх яна ўзяла пад сваё крыло.

## УСЁ, ЯК У СЯМ'І

Калі с. Алена разважае пра цяжкасці, з якімі сутыкаецца падчас выхавання дзяцей, то адзначае, што яе галоўная задача – прыкласці ўсе намаганні, каб сэрцы малодых людзей адагрэліся, адкрыліся на любоў і добразычлівасць.

*"Дзеці, з якімі я мела дачыненне, былі пакалечаны маральна, псіхалагічна і нават фізічна,* – распавядае сястра. – *Яны прыходзілі злосныя, агрэсіўныя, пакрыўджаныя. Гэтыя негатыўныя эмоцыі трэба неяк перамагаць. Акрамя таго, дзеці з неблаганадзейных сем'яў маюць скажоны вобраз сям'і. Там іх не любілі, здзекаваліся, там яны былі лішнімі. І мне трэба паказаць, што можа быць інакш. Да кожнага трэба падабраць ключык, знайсці падыход, каб маленькі чалавек табе адкрыўся, паверыў. Я называю гэты працэс чарапашымі крокамі, бо, каб вылечыць душу, патрэбен ні дзень, ні месяц, і нават ні адзін год. Але я ўпэўнена, што ўсё цёмнае можна перамагчы, калі базіраваць жыццё на Богу і Яго любові. Толькі Ён зможа выраўняць, нармалізаваць і супакоіць тую эмацыйную буру, якую давялося перажыць чалавеку".*



Сястра падкрэслівае, што ўсе дзеці, якія да яе трапляюць, атрымліваюць сакрамант хросту, кожнага з іх яна прыводзіць да Бога. *"Касцёл у нас праз дарогу, таму ў святыню ходзім усе разам,* – гаворыць с. Алена. – *Лічу, што без веры і Бога гэтым дзецям не ўдасца дапамагчы. Дома ў нас ёсць капліца, дзе молімся. Пачынаем і заканчваем дзень малітвай, нават самыя маленькія, якія яшчэ не ўмеюць гаварыць, прыходзяць разам з намі. Штодня адгаворваем Ружанец і Вяночак да Божай Міласэрнасці. Таксама маем спецыяльную шкатулку, дзе складваем карткі з імёнамі людзей, якія нам дапамагаюць. За іх таксама молімся. Такім чынам дзеці вучацца ўдзячнасці. Акрамя таго, стараемся практыкаваць веру ў справах. Напрыклад, падчас Адвэнту выцягваем паперкі з імёнамі дзяцей, якія жывуць у неблаганадзейных сем'ях. На працягу посту молімся за іх і збіраем падарункі. Пасля ўсе разам сядаем у машыну і едзем да гэтых дзяцей, каб павіншаваць са святам Раства. Лічу, што гэта вельмі добрая традыцыя. Дзеці вучацца клапаціцца пра іншага чалавека, прыкмячаць, што вакол іх ёсць тыя, каму неабходна дапамога і падтрымка".*



С. Алена Дварэцкая таксама акцэнтуе ўвагу на тым, што іх жыццё працякае па прынцыпе "Мы – сям'я"; што дом, у якім яны жывуць – гэта не месца часовага прытулку, а нібыта порт, куды заўсёды можна вярнуцца, дзе ў любы час дня і ночы чакаюць, любяць, прымаюць такім, які ты ёсць.

*"Афіцыйна дзеці павінны тут жыць да моманту заканчэння школы,* – гаворыць сястра. – *Пасля яны пераходзяць на дзяржаўнае забеспячэнне. Але на практыцы ўсё інакш. Дзеці прыязджаюць сюды, калі ім захочацца, ведаюць, дзе што ляжыць, паводзяць сябе тут, як у бацькоўскім доме, у якім выраслі. Тут застаецца іх ложак, паліца ў шафе, нейкія дробныя рэчы. Яны ведаюць, што іх праблемы – гэта мае праблемы. Калі яны вучацца, то я вучуся разам з імі, прысутнічаю на ўсіх бацькоўскіх сходах і ў школе, і ў каледжах. Калі наша Аня выходзіла замуж, я рабіла ёй вяселле, брала вялікі крэдыт у банку. Дзяўчына мяне не прасіла аб гэтым, мне самой хацелася, каб у яе засталіся светлыя ўспаміны, каб тыя цёмныя моманты, якімі было пазначана яе жыццё, растварыліся. Зараз вельмі цешуся, што ў яе склалася жыццё, што завітае да нас у госці разам з мужам і дзеткамі. Заўсёды чакаю прыезду ўсіх сваіх дзяцей, я ім вельмі рада, з кожным з іх дзялюся тым, што маю сама. Некалькі дзён таму ў мяне быў Дзень нараджэння. Мае дзеці, тыя дарослыя, і гэтыя, што жывуць са мною, зладзілі для мяне сапраўднае свята. Увечары яны заехалі на падворак з сігналамі і светам фар так гучна, што чула, хіба, уся вёска. Хтосьці быў з тортам, хтосьці – з букетам. Яны так спявалі, што я расплакалася. Гэта быў знак, што ўсё не дарма. Цешуся і ганаруся, што з іх выраслі годныя людзі, што яны не растрацілі таго, што гадамі ў іх укладвалася, што самае прыгожае ў свеце слова «мама» для іх набыло станоўчы сэнс, напоўнілася цеплынёй, дабрынёй і радасцю".*

Лічыцца, што быць прыёмнай маці – гэта праца. З тым нельга пагадзіцца, бо калі глядзіш на с. Алену Дварэцкую, разумееш: гэта сэнс яе жыцця. Выдатна, што знаходзяцца такія людзі, якія жадаюць падзяліцца сваёй любоўю і даць магчымасць стаць шчаслівымі пакрыўджаным лёсам дзецям, абагрэць іх сэрцы і дапамагчы вызначыцца ў жыцці.

*Кінга Красіцкая*




Catholic.by

**Катэдра як аб'ект светлавой інсталяцыі**

**Да 100-годдзя заканчэння I Сусветнай вайны Каталіцкі Касцёл у Германіі правёў адмысловую акцыю пад дэвізам "Dona Nobis Pacem" ("Дай нам супакой").**

На паўднёвы фасад святыні ў Кёльне былі спраектаваны сімвалічныя выявы і антываенныя лозунгі "Peace" ("Мір"), "Never again!" ("Ніколі зноў!") і інш. Светлавое шоу суправаджалі фрагменты класічных музычных твораў.

Аўтарамі інсталяцыі выступілі 2 нямецкія медыя-дызайнеры Дэтлеф Хартунг і Георг Трэнц. Мастакі тлумачаць сэнс акцыі як адкрыты дыялог пра вайну і свет, у якім чалавек узаемадзейнічае з архітэктурай, святлом і тыпаграфікай.




**Ружанец – самая папулярная малітва сярод палякаў**

**Такі факт вынікае са справаздачы Інстытута статыстыкі Каталіцкага Касцёла на тэму марыйнага культу ў Польшчы.**

З праведзенага даследавання бачна, што культ Маці Божай выразна прасочваецца ва ўсіх парафіях у Польшчы. Яго найбольш распаўсюджанай формай з'яўляюцца Ружанец і маёвае набажэнства, якія адпраўляюцца амаль ва ўсіх святынях. Адной з асноўных рыс марыйнай набожнасці ў польскім каталіцызме з'яўляецца таксама фацімскае набажэнства.

Сярод іншых форм марыйнага культу найбольшай папулярнасцю карыстаюцца навэнны: да Маці Божай Нястомнай Дапамогі, Маці Божай Шкаплернай, Маці Божай Суцяшэння, Беззаганнага Сэрца Найсвяцейшай Панны Марыі, Дапаможніцы Вернікаў, Маці Божай Чанстахоўскай і Пампейская навэнна.




**Пасля 20-ці гадоў рэстаўрацыі адкрыта капліца Турынскай Плашчаніцы**

**Барочная пабудова з 1694 года служыла сховішчам ільняной тканіны, якая ўтрымлівае вобраз Укрыжаванага.**

У ноч з 11 на 12 красавіка 1997 года пажар знішчыў капліцу амаль цалкам. Аднаму з пажарных удалося разбіць куленепрабівальнае шкло і выратаваць Плашчаніцу. Цудоўная тканіна з тых часоў захоўвалася ў запоўненым інертным газам ахоўным кантэйнеры ў бакавой капліцы сабора.

Да паўторнага адкрыцця капліцы Музей Плашчаніцы арганізаваў выставу арыгіналаў першых фатаграфій палатна. Дзякуючы фотапласцінкам, датаваным 1898 годам, стала магчымым ператварыць цьмяны вобраз на Плашчаніцы ў выразную выяву Хрыста.

# ЯК ДАР ДЛЯ ПАРАФІІ

погляд так можа здавацца. Арганіст заўсёды павінен быць даступны: ранкам ці вечарам, у нядзелю ці ў будзень, а часам нават і па некалькі разоў на дзень. Выключэнне можа быць толькі з-за хваробы.

Спадар Антоній падкрэслівае, што арганіст павінен не толькі граць, але і знаходзіць ключы да людскіх сэрцаў; праз музыку дапамагаць ім адкрывацца на Слова, на іншага чалавека і на Пана Бога. *"Гэта вялізная адказнасць,* – заўважае мужчына, – *таму стараюся рыхтаваць песні загадзя і сам таксама рыхтуюся да св. Імшы. Я ўпэўнены, што добры арганіст – гэта не той, хто ведае ўстройства аргана і літургічныя песні, але, найперш, чалавек з непахіснай верай, вынесенай з роднага дома".*

## БЛІЖЭЙШЫ СУПРАЦОЎНІК

Пробашч парафіі св. Яна Хрысціцеля ў Воўпе кс. канонік Віктар Мыслюк адзначае, што ва ўсёй ваколіцы, хіба, няма чалавека, які б не ведаў спадара Антонія. *"Ён ужо столькі гадоў праслаўляе Пана сваёй ігрой і спевам! Гэта вельмі заслужаны арганіст. Яго аўтарытэт бясспрэчны, паколькі ў складаныя для Касцёла часы спадар Антоній дапамагаў людзям захоўваць веру,* – гаворыць кс. Віктар. – *Цешымся, што ён служыць у нашай парафіі, таму што дзякуючы яго прысутнасці па-іншаму выглядае Эўхарыстыя. Спадар Антоній у касцёле кожны дзень. Нават калі трэба адправіць 2-ую св. Імшу, напрыклад, пахавальную, наш арганіст па магчымасці стараецца прыйсці".*

Пробашч адзначае таксама, што Антоній Вішнеўскі на працягу многіх гадоў быў арганістам у яго роднай парафіі ў Росі. *"Я пазнаёміўся са спадаром Антоніем асабіста, калі быў яшчэ малым дзіцём,* – успамінае кс. Віктар. – *Прыйшоў аднойчы разам з бацькамі ў касцёл і захацеў падчас св. Імшы стаць на хорах. Мне так там спадабалася, што пачаў прыходзіць туды кожны раз. Памятаю, што калі праходзіў міма аргана, а спадар Антоній іграў Гадзінкі, заўсёды ўсміхаўся і схіляў галаву ў мой бок. А аднойчы даручыў мне напампоўваць паветра ў арган падчас урачыстасці. Гэтая падзея моцна адбілася ў маёй памяці. Спадар Антоній упрыгожваў сваёй ігрой шлюб маіх бацькоў, маю прыміцыйную св. Імшу ў 2001 годзе і шлюбы маіх братоў. У Росі яго вельмі шанавалі. Казалі, што нідзе ў ваколіцы няма такога арганіста, як*



*спадар Антоній, паколькі мужчынскі голас у касцёле – сапраўды прыгожая традыцыя. Цешуся, што Божы Провід зноў злучыў нашы дарогі, што сёння я зноў супрацоўнічаю са спадаром Антоніем, каб разам славіць Пана. Такі чалавек і арганіст – вялікая радасць для парафіі. Шкада, што сённяшняя моладзь не выбірае гэты напрамак, калі задумваецца аб будучыні. Прафесія арганіста, можа, не такая захапляльная, як многія іншыя разрэкламаваныя прафесіі, але дазваляе чалавеку хваліць Бога, служыць Яму, упрыгожваць літургію і спрыяць паглыбленню літургічных перажыванняў. Невыпадкова гаворыцца, што той, хто спявае, двойчы моліцца, такім чынам вядучы душу да Бога. І гэта штосьці вельмі цудоўнае".*



*Кінга Красіцкая*




### *Для чаго ствараецца парафіяльная рада? І як яна працуе?*

*Парафія – гэта арганізм, супольнасць, якая кіруецца пэўнымі нормамі. Такім чынам, у парафіі павінны быць некаторыя атрыбуты, якія дапамагаюць ёй функцыянаваць і выконваць сваё прызначэнне. Адным з такіх атрыбутаў з'яўляецца парафіяльная рада. Падыход да гэтага інстытута адрозніваецца з пункту гледжання свецкага заканадаўства і кананічнага права.*

*Трэба адзначыць, што Кодэкс кананічнага права нічога прама не гаворыць пра інстытут парафіяльнай рады ў Каталіцкім Касцёле. Аднак у каноне 536 акрэсліваецца магчымасць стварэння душпастырскай рады, якая мае толькі дарадчы голас, кіруецца нормамі, акрэсленымі біскупам, і дапамагае пробашчу ў душпастырскай працы. Стварэнне такой рады ў парафіі не з'яўляецца абавязковым.*

*Але наступны канон 537 ККП акрэслівае абавязак стварэння ў парафіі Рады па эканамічных справах. І тут ужо патрабаванне касцёльнага заканадаўства адназначае: такая рада ў парафіі павінна быць створана. Сэнс яе існавання палягае на дапамозе пробашчу ў адміністраванні парафіяльнай супольнасцю. Варта заўважыць, што, згодна з паўсюдным правам Касцёла, кіраўніком парафіі з'яўляецца пробашч, а ўсе іншыя супрацоўнікі толькі дапамагаюць яму ў выкананні паслугі.*

*Кодэкс кананічнага права не акрэслівае падрабязна, якім чынам адбываюцца выбары ў раду і ў чым канкрэтна заключаюцца яе абавязкі. За адказамі на гэтае пытанне варта звярнуцца да партыкулярнага права, г. зн. да норм, выдадзеных біскупам, ці да дыяцэзіяльных статутаў. Важная інфармацыя па гэтым пытанні змяшчаецца таксама ў парафіяльным статуце, які зацвярджаецца біскупам і рэгіструецца ў аблвыканкаме.*

*Важным момантам адносна парафіяльнай рады з'яўляецца тэма кіраўніцтва парафіяй. Згодна з Кодэксам кананічнага права, пастырам парафіі і яе кіраўніком з'яўляецца пробашч. Аднак статуты парафіі ўказваюць на старшыню парафіяльнай рады як на таго, хто кіруе парафіяй. Як быць, каб захаваць патрабаванні касцёльнага права і не парушаць свецкага? Ідэальным варыянтам з'яўляецца той, калі пробашч парафіі абіраецца сходам на пасаду старшыні парафіяльнай рады.*

*Як было зазначана, найвышэйшы касцёльны заканадаўца пакідае партыкулярнаму праву вырашаць прынцыпы адміністравання і функцыянавання такіх інстытутаў, як парафіяльная рада. Таму падрабязныя адказы варта шукаць менавіта там, уважліва чытаючы сінадальныя статуты, нормы, выдадзеныя дыяцэзіяльным біскупам, і парафіяльны статут. Разыходжанні паміж палажэннямі дыяцэзіяльнага права і статутамі парафіі могуць быць у пытанні кадэнцыйнасці рады, яе складу і частаты пасяджэнняў.*

*Кс. Віктар Місевіч*
***Паводле catholicnews.by***

# Ружанец – ратунак для свету



**Восень – незвычайная пара года. Нягледзячы на тое, што ў гэты час больш востра адчуваем холад, апранаем цяплейшае адзенне, часцей заходзім у аптэку па лякарствы ад прастуды, а ў сацыяльных сетках чытаем ці нават самі пішам, што хацелася б вярнуцца ў цёплыя і радасныя летнія хвіліны – восень з'яўляецца выключнай.**

**У Касцёле незвычайнасць гэтага перыяду праяўляецца ў тым, што ў кастрычніку асаблівай пашанай ахінаем Маці Божую праз ружанцовую малітву. Можа, часам у галаву прыходзіць думка, што ўжо столькі разоў нам казалі пра яе значэнне, столькі разоў заахвочвалі да яе, аднак варта памятаць, што малітвы ніколі не бывае зашмат. Сведчаннем гэтага з'яўляюцца вернікі, якія ў святынях, капліцах і дома ў розных кутках свету збіраюцца, каб супольна адгаворваць Ружанец, паколькі гэтая малітва мае асаблівую моц і можа многае змяніць у жыцці.**

## Каб узяць у рукі ружанец, патрэбна вера

Не хачу вяртацца да гісторыі ўзнікнення ружанцовай малітвы, паколькі яна, напэўна, ужо ўсім вядомая. Нашмат важней, на маю думку, паразважаць над значэннем Ружанца ў нашым штодзённым жыцці. Так! Штодзённым! Не толькі ў кастрычніку ці ў першую суботу, з пэўнай нагоды ці пасля таго, як на споведзі атрымалі наказ памаліцца Ружанец за пакуту, але кожны дзень, незалежна ад пары года і месца. Чаму і навошта? Таму што гэта вельмі плённая малітва. Але каб адчуць яе плён на ўласным жыцці, трэба спачатку ў гэта паверыць.

На папрок аб тым, што гэта малітва, у якой бяссэнсна паўтараюцца тыя самыя словы, айцец дамініканец Жан-Бацiст Лакардэр, прапаведнік і пісьменнік, заўважыў: "Каханне знае толькі адно слова. Але нават прамаўляючы яго бясконца, мы ніколі не паўтараемся". Франсуа Марыак, член Французскай акадэміі, аднойчы сказаў: "Сціскание ружанца падобнае чымсьці на трыманне за руку маці, якая пераводзіць нас праз дарогу". Таму, адгаворваючы ружанцовую малітву, мы выпрошваем заступніцтва і апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Такім чынам аднаўляем таксама любоў да Багародзіцы, якая ўжо здзейсніла столькі цудаў для ўсяго чалавецтва і асобных людзей ва ўсім свеце.

## Багацце Ружанца

Чаму Ружанцу надаецца такая вялікая роля? Каб адказаць на гэтае пытанне, хацелася б больш дакладна прыглядзецца да асобных малітваў, з якіх ён складаецца, звярнуць увагу на іх змест і значэнне.

Робячы на сабе **Знак Крыжа,** заклікаем Трыадзінага Бога: Айца, Сына і Святога Духа. Так мы злучаемся з крыжом Езуса Хрыста, на якім Збаўца памёр за нас і які павінен праціналь усё наша жыццё.

**"Веру ў Бога Айца Усемагутнага"**, называемае таксама Апостальскім сімвалам веры, з'яўляецца найважнейшым прызнаннем веры Каталіцкага Касцёла. Уключае ў сябе найважнейшыя праўды, у якія мы як хрысціяне верым, якія прымаем і на якіх павінны будаваць сваё жыццё. У гэтай малітве вызнаём веру ў Адзінага Бога, які з'яўляецца Айцом і Панам усяго стварэння, у Езуса Хрыста, Бога і Чалавека, які з любові да людзей памёр і ўваскрос, каб указаць нам мэту пілігрымавання, у Святога Духа, святы Касцёл, заснаваны Збаўцам, еднасць з Касцёлам і з тымі, хто апярэдзіў нас на дарозе ў Нябесную Айчыну; затым – у аздараўленчую моц святых сакрамантаў, у абяцанае Месіем уваскрашэнне ў канцы часоў і, урэшце, у вечнае жыццё, поўнае шчасця і свабоднае ад усякага зла.

Малітву **"Ойча наш"** Езус перадаў сваім вучням, калі папрасілі Яго: "Пане, навучы нас маліцца" (Лк 11, 1). У ёй мы праслаўляем нябеснага Айца і ўзносім свае просьбы. Просім Бога, каб Ён быў асвечаны ў нас, каб нашыя сэрцы былі Яго святыняй. Заклікаем Божае Валадарства, бо менавіта яно нясе зразуменне, супакой, дабрыню і радасць. Прыгадваем сабе, што ўвойдуць туды толькі тыя, хто з пакорай прымае і выконвае волю Бога. Молім быць міласэрным да нас, абараніць ад спакус і прагнасці, збавіць ад моцы д'ябла.

Кожнае **"Вітай, Марыя"** з'яўляецца напамінам аб моманце Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі – радаснай навіны аб тым, што Яна стане Маці Збаўцы ўсяго чалавецтва. У 2-ой



частцы малітвы, што пачынаецца словамі "Святая Марыя", заключана просьба апекаваца намі грэшнымі і быць заступніцай цяпер, падчас зямной вандроўкі, і ў хвіліну, калі будзем пакідаць гэты свет.

Малітва **"Хвала Айцу і Сыну, і Духу Святому"** – гэта хрысціянскі гімн, падчас якога чалавек праслаўляе Бога ў 3-ох Асобах праз пакланенне і выражэнне сваёй удзячнасці.

Наступная, досыць кароткая малітва **"О, Марыя, без граху першароднага зачатая..."** звязана з аб'яўленнем Багародзіцы 27 лістапада 1830 года ў парыжскім кляштары супольнасці сясцёр міласэрнасці св. Вінцэнта дэ Поля. Тады перад сціплай навіцыяткай Катрын Лабурэ з'явілася Найсвяцейшая Панна Марыя, якая даручыла ёй зрабіць і распаўсюдзіць аб'яўлены Ёю цудоўны медалік, на якім была адлюстравана постаць Маці Божай са змешчаным вакол Яе надпісам: "О, Марыя, без граху першароднага зачатая, маліся за нас, хто ў Цябе паратунку шукае!". Такім чынам, гэтымі словамі мы просім Найсвяцейшую Панну аб асаблівай апецы.

Заканчвае дзясятак Ружанца заклік **"О, мой Езу..."**, які таксама прыгадвае аб аб'яўленнях Маці Божай. У Фаціме



ў 1917 годзе Марыя сказала 3-ом пастушкам, што да Ружанца трэба дадаць гэтую малітву. Яна ўключае просьбу аб Божай міласэрнасці для нас – слабых і грэшных людзей. У ёй просім, каб Збаўца захаваў кожнага ад вечнага асуджэння і дазволіў сустрэцца з Ім там, куды мы ўсе імкнёмся – у Небе.

## Ружанец як адкрыццё на вялікія рэчы

Спадзяюся, што цяпер, пасля ўсведамлення глыбокага сэнсу малітваў, з якіх складаецца Ружанец, мы ўжо ніколі не скажам, што ён з'яўляецца звычайным паўтарэннем вывучаных формул. Іх прамаўленне – гэта выражэнне веры, разважанне яе таямніц, запрашэнне Бога ў нашу штодзённасць. Ружанец – малітва, якой можам вельмі многае змяніць і выпрасіць! Не выпадкова ж падчас аб'яўленняў у Фаціме Найсвяцейшая Панна Марыя пастаянна прыгадвала пра ружанцовую малітву, якая з'яўляецца "ратункам для свету".

Чарговы кастрычнік – цудоўная нагода, каб нанова адкрыць каштоўнасць Ружанца ў сваім жыцці. Няхай ён стане для нас важным пунктам кожнага дня, каб маглі адкрыцца на вялікія рэчы, якія адбываліся ў жыцці Найсвяцейшай Панны Марыі.

Давайце маліцца Ружанец! Маліцца, каб Маці Божая адаравала благаслаўленнем нас, нашыя сем'і і ўвесь свет, каб Яе пяшчотны позірк



напаўняў душы супакоем і любоўю, а вечна палымнеючае Беззаганнае Сэрца ўзмацняла веру і абуджала надзею.

*Кс. Ян Раманоўскі*

## НАВІНЫ



### ЮБІЛЕЙНЫЯ ЎРАЧЫСТАСЦІ Ў АСТРАЎЦЫ

550-годдзе ўтварэння парафіі, 200-годдзе касцёла і 100-годдзе вяртання святыні католікам адзначылі ў касцёле свсв. Космы і Дам'яна ў Астраўцы. Урачыстую св. Імшу падзякі за дар парафіяльнай супольнасці і святыні ўзначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. У літургіі ўдзельнічалі таксама дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі і дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Юрый Касабуцкі. Прысутнічала вялікая колькасць святароў, прадстаўнікі раённай улады, вернікі, госці. Завяршылася св. Імша ўхвальна-благаслаўнай працэсіяй вакол касцёла.

Святкаванні працягваліся ў парафіі ўвесь дзень. Акрамя малітваў, праграма ўрачыстасцей уключала канцэрты і феерверкі.

### БІСКУПСКІЯ ВІЗІТЫ



Біскупы Гродзенскай дыяцэзіі Аляксандр Кашкевіч і Юзаф Станеўскі разам з пілігрымамі з Беларусі, якія прымалі ўдзел у сустрэчы з папам Францішкам у Літве, ушанавалі бл. арцыбіскупа Тэафілюса Матулёніса, рэліквіі якога знаходзяцца ў катэдры горада Кайшадорыс.

Біскуп Аляксандр Кашкевіч здзейсніў кананічную візітацыю ў парафіях дэканата Масты.

### МАНАСКІЯ СУПОЛЬНАСЦІ



25-годдзе манаскага жыцця адзначыў кс. Алег Жураўскі, пробашч парафіі св. Міхала Арханёла ў Смаргоні. Павіншаваць юбіляра прыбылі дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Аляксандр Яшэўскі, ксяндзы салезіяне з розных куткоў Беларусі, а таксама святары з дэканата.

Новы фармацыйны год распачаўся для ўдзельнікаў "Савіо-клуба", які апекуюцца салезіяне. У гэтым годзе "Савіо-клуб" папоўніўся новымі ўдзельнікамі і цяпер налічвае каля 30-ці дзяцей ва ўзросце ад 10-ці да 13-ці гадоў.

Айцы піяры арганізавалі для міністрантаў з парафіі Шчучын інтэграцыйны выезд. Прадстаўнікі літургічнай службы алтара разам паматліліся ў санктуарыі Маці Божай Яснагорскай, Цярпліва Слухаючай, на Узгорку надзеі ў Капцёўцы, а затым сыгралі ў лазертаг і наведалі кінатэатр.

### КУЛЬТУРНЫЯ ПАДЗЕІ



XIV Рэспубліканскі турнір па міні-футболе памяці св. Яна Паўла II адбыўся ў Слоніме. Сярод 17-ці каманд-удзельніц з усёй Беларусі перамагла каманда з Сапоцкіна.

Дыяцэзіяльны фестываль рэлігійнай песні прайшоў у гродзенскай парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля. Найлепшымі ў намінацыях аказаліся малады артысты з гродзенскіх парафій Найсвяцейшага Адкупіцеля, Святога Духа, Божай Міласэрнасці, а таксама з парафіі свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі.

### АДНЫМ РАДКОМ

• На 1-шы курс Тэалагічнага каледжа св. Казіміра ў Гродне залічаны 31 чалавек. • 10-гадовы юбілей адсвяткаваў "Рух Марыі", які дзейнічае пры парафіі Божай Міласэрнасці ў Гродне. • 8 выпускнікоў Вышэйшай духоўнай семінарыі сабраліся ў гродзенскай парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі, каб адсвяткаваць 15-годдзе святарскіх пасвячэнняў.

*Агляд навін падрыхтаваны на аснове інтэрнэт-старонкі* ***grodnensis.by.***

### У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**7 кастрычніка 1960 г.** – бр. Пантэлеон Жэброўскі SchP, *Ліда;*
**7 кастрычніка 1962 г.** – кс. Уладзіслаў Красоўскі, *проб. Галынка;*
**13 кастрычніка 1992 г.** – кс. Валянцін Кублік SJ, *душп. Індура;*
**20 кастрычніка 1982 г.** – кс. Чэслаў Янкоўскі, *проб. Мінойты.*

## АНОНСЫ

### УСЕБЕЛАРУСКІЯ РЭКАЛЕКЦЫІ ЦВЯРОЗАСЦІ ПРОЙДУЦЬ У БАРАНАВІЧАХ

**Духоўныя практыкаванні для неабыякавых да праблемы алкагалізму і наркаманіі людзей адбудуцца 12–14 кастрычніка ў доме айцоў вербістаў па вул. Т. Шаўчэнкі, 6.**

Сустрэчу арганізуе душпастырства цвярозасці Гродзенскай дыяцэзіі.

*Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць па тэлефоне: (8 033) 325-57-64, Юрый Гапонік.*

### ІТАЛЬЯНСКІ ПРАПАВЕДНІК ПРАВЯДЗЕ РЭКАЛЕКЦЫІ Ў МАСТАХ

**Сустрэча з а. Антанэла Гадэду адбудзецца ў парафіі Маці Божай Тройчы Цудоўнай 13–14 кастрычніка.**

Разам са свецкімі асобамі а. Антанэла Гаддэду і а. Энрыке Порку заснавалі супольнасць "Запавет міласэрнасці", якая ўжо дзейнічае ў многіх краінах свету: Бразіліі, Бельгіі, Францыі, Партугаліі, Італіі, Польшчы. Яна аб'ядноўвае ў адну сям'ю для справы евангелізацыі мужчын і жанчын, святароў і манахінь; давяраючы дзеянню Святога Духа, рэалізуе многія справы міласэрнасці праз словы, малітву і ўчынкі.

*Каб прыняць удзел у рэкалекцыях, неабходна зарэгістравацца да 9 кастрычніка па тэлефоне: (8 029) 909-80-01 або (8 029) 266-20-42.*

*Існуе магчымасць скарыстаць з абеду і начлегу (датычыць 1-га дня рэкалекцый).*

*З сабой неабходна мець Святое Пісанне і ружанец, а таксама, па магчымасці, пераносныя крэсла.*

### ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНАЯ СУСТРЭЧА АПОСТАЛЬСТВА ДАПАМОГІ ЧЫСТЦОВЫМ ДУШАМ ПРОЙДЗЕ Ў КАПЦЁЎЦЫ

**Спатканне адбудзецца ў санктуарыі Маці Божай Яснагорскай, Цярпліва Слухаючай, на Узгорку надзеі 13 кастрычніка.**

**Праграма:**

10.00 – прывітанне ўдзельнікаў;
– выстаўленне і адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту;
11.00 – Крыжовы шлях;
– кароткі перапынак;
12.00 – "Анёл Панскі" за чыстцовыя душы;
12.15 – канферэнцыя;
13.00 – Вяночак за памерлых;
14.00 – св. Імша;
15.00 – супольны пасілак у Доме пілігрыма;
– заканчэнне сустрэчы.

Да ўдзелу запрашаюцца святары, адказныя за Апостальства ў парафіях, і вернікі, якія належаць да парафіяльных груп Апостальства.

*Аб удзеле неабходна загадзя паведаміць кс. Міхалу Ластоўскаму, дыяцэзіяльнаму мадэратару Апостальства і кусташу санктуарыя ў Капцёўцы, па тэлефоне: (8 029) 116-87-26 або (8 033) 655-44-22.*

### ВОСЕНЬСКІЯ РЭКАЛЕКЦЫІ АДБУДУЦЦА Ў РОСІ

**Трохдзённыя духоўныя практыкаванні будуць праходзіць у рэкалекцыйным цэнтры "Дом міласэрнасці".**

**План рэкалекцый:**

**КАСТРЫЧНІК**

**19–21 кастрычніка:** "Бог ёсць Любоў" (1 Ян 4, 16), кс. д-р Аляксандр Севасцьяновіч.

**ЛІСТАПАД**

**9–11 лістапада:** "Унутранае ацаленне", кс. Віктар Ханько;
**16–18 лістапада:** рэкалекцыі для сужэнскіх пар з малітвай аб дары патомства, кс. Чэслаў Паўлюкевіч;
**23–25 лістапада:** рэкалекцыі аб "Свedчанні" і "Павучанні" з дзённіка Аліцыі Лянчэўскай, кс. Чэслаў Паўлюкевіч.

Пачатак рэкалекцый у 18.00. Заканчэнне – у 15.00.

*Для ўдзелу ў духоўных практыкаваннях неабходна абавязковая рэгістрацыя па тэлефоне: (8 029) 886-31-28. Па пытанні запісу просьба тэлефанаваць з панядзелка па пятніцу ў гадзінах: 11.00–12.00, 20.00–21.00.*

### ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНАЯ СУСТРЭЧА ЧЛЕНАЎ ЖЫВОГА РУЖАНЦА АДБУДЗЕЦЦА Ў КАПЦЁЎЦЫ

**Спатканне пройдзе ў санктуарыі Маці Божай Яснагорскай, Цярпліва Слухаючай, на Узгорку надзеі 27 кастрычніка.**

**Праграма:**

11.00 – прывітанне;
– выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту (магчымасць прыступіць да споведзі);
– Ружанец;
– перапынак;
12.15 – канферэнцыя;
13.00 – Крыжовы шлях;
14.00 – св. Імша;
15.00 – абед, заканчэнне сустрэчы.

Запрашаюцца святары, кансэкраваныя асобы і ўдзельнікі ружанцовага малітоўнага руху.

*Аб удзеле ў спатканні неабходна загадзя паведаміць кс. Міхалу Ластоўскаму, дыяцэзіяльнаму мадэратару колаў Жывога Ружанца Гродзенскай дыяцэзіі і кусташу санктуарыя ў Капцёўцы, па тэлефоне: (8 029) 116-87-26 або (8 033) 655-44-22.*

## Каляндар падзей

***11 кастрычніка***
*Успамін св. Яна XXIII, Папы.*

***15 кастрычніка***
*Успамін св. Тэрэзы ад Езуса, панны і доктара Касцёла.*

***17 кастрычніка***
*Успамін св. Ігнацыя з Антыёхіі, біскупа і мучаніка.*

***18 кастрычніка***
*Свята св. евангеліста Лукі, заступніка службы аховы здароўя. Молімся ў інтэнцыі ўрачоў, медсясцёр, працаўнікоў бальніц і хоспісаў.*

***У кастрычніку заахвочваем да ружанцовай малітвы ў касцёлах, капліцах і дома.***

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Кастрычнік***
*Каб з тэрыторыі нашай дыяцэзіі Пан Бог паклікаў місіянераў і місіянерак, здольных адважна пайсці за Хрыстом і служыць Яму ў місійных краінах.*

# Дзіцячы куточак

*Прывітанне, маленькі Чытач!*
*Ты, напэўна, ужо чуў, што суседнія краіны – Літву, Латвію і Эстонію – нядаўна наведаў Папа Рымскі Францішак. А ці ведаеш Ты, хто ён такі?*

### Хто такі Папа Рымскі?

*Каля 2-юх тысяч гадоў таму Езус прыйшоў да Пятра, аднаго з апосталаў, і сказаў: "Ты – Пётр (скала), і на гэтай скале Я пабудую Касцёл Мой" (Мц 16, 18). Хрыстос ведаў, што можа давяраць свайму сябру, якога выбраў сярод іншых, таму прасіў, каб той быў арыенцірам для вучняў, калі Яго самога больш не будзе на зямлі. Езус сказаў Пятру: "Пасі авечак маіх" (Ян 21, 17). Авечкамі з'яўляемся мы – вернікі, якія ідуць за Езусам, а Папа, як і ўсе біскупы і святары, якія дапамагаюць яму, з'яўляецца пастухом, што павінен клапаціцца пра даручаных яму авечак.*

*Такім чынам, Пётр стаў першым Папам Рымскім у гісторыі. Кожны наступны Папа, які прыходзіў пасля Пятра, станавіўся яго пераемнікам. Папа з'яўляецца таксама біскупам Рыма і кіраўніком дзяржавы Ватыкан.*

### Што робіць Папа, і якая яго роля?

*Езус даў апосталу Пятру важныя і адмысловыя задачы: служыць і захоўваць адзінства паміж усімі вучнямі ў любові і праўдзе. Кожны Папа працягвае місію Пятра ў еднасці з усімі біскупамі на зямлі.*

### Дзе жыве Папа?

*Папа жыве ў Ватыкане – у горадзе, які, хоць і знаходзіцца ў Рыме, з'яўляецца незалежнай дзяржавай. Тут ёсць вельмі шмат прыгожых месцаў: ад базілікі св. Пятра да музеяў, дзе знаходзяцца многія вядомыя ў свеце творы мастацтва.*

### Чаму Папа апранаецца ў белае адзенне?

*Папа прадстаўляе Езуса, і таму яго сутана белага колеру – як сімвал нявіннасці, чысціні і міласэрнасці.*

### Чаму Папа носіць капялюш і трымае ў руках крыж, калі адпраўляе св. Імшу?

*Капялюш называецца мітрай, а пад мітрай знаходзіцца піуска – маленькая круглая шапачка белага колеру, якую Папа накладае на сярэдзіну галавы. Посах з крыжом – гэта пастарал, сімвал таго, што Папа з'яўляецца пераемнікам св. Пятра. Мітра і пастарал указваюць на місію кожнага біскупа: быць пастырам для вернікаў, арыенцірам як для людзей, якія вераць у Езуса, так і для тых, каму цяжка давяраць Яму.*

*Папа таксама мае персцень рыбака. На ім прадстаўлены св. Пётр, які закідвае сеткі, а вакол гэтай выявы выгравіравана імя Папы.*

### Як становяцца Папам?

*Папа абіраецца падчас канклава. Гэта вялікі сход кардыналаў (вельмі важных духоўных асоб з усяго свету, якія дапамагаюць Папе ў яго паслузе). Яны збіраюцца разам у Сікстынскай капэле і замыкаюцца на ключ, каб ім ніхто не перашкаджаў. Падчас канклава кожны кардынал піша на картцы імя чалавека, якога хацеў бы бачыць Папам, і змяшчае яго ў скрыні. У канцы падлічваюцца галасы. Калі імя пэўнага кардынала паўтараецца часцей за астатнія, менавіта ён становіцца Папам. Тады ўжо непатрэбныя карткі з імёнамі спальваюць у печцы, з коміна якой выходзіць белы дым – так увесь свет даведваецца, што ў Касцёле абраны новы Папа.*

**Заданне:** *памаліся за Папу Рымскага, а таксама ва ўсіх яго інтэнцыях.*

*С. Вераніка*
*Блізнюк FMA*

# Ад шчырага сэрца

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Пышынскаму**

з нагоды Дня нараджэння складаем найлепшыя пажаданні. Няхай кожны Ваш дзень будзе напоўнены супакоем, вочы ззяюць ад шчасця, а з твару не сыходзіць усмешка. Жадаем моцнага здароўя на доўгія гады ў пачэснай службе Богу і людзям.

*З павагай, былыя вернікі з капліцы Вердамічы*

**Паважанаму Ксяндзу Артуру Малафею**

з нагоды Імянін сардэчна жадаем шчодрых Божых ласкаў. Няхай кожны Ваш дзень будзе напоўнены радасцю і супакоем, а паслуга на карысць Богу і людзям прыносіць шчодры плён. Жадаем моцнага здароўя, аптымізму, надзеі, сіл для рэалізацыі ўсіх планаў і намераў. Мы ўдзячны Вам за адданую службу ў нашай парафіі, абвяшчэнне Божага слова, цудоўны прыклад веры і мудрасці, адкрытае сэрца і нястомны клопат пра кожнага з нас. Няхай добры Бог за ўсё Вас узнагародзіць.

*З павагай і малітвай, вернікі з парафіі Гродна-Аўгустовак*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юзафу Багдзевічу**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем шчырыя віншаванні. Няхай усё Ваша жыццё будзе напоўнена святлом і любоўю, Збаўца вядзе Вас па цудоўнай дарозе святарства, а побач будуць толькі добразычлівыя людзі. Жадаем моцнага здароўя, нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці і Пана Езуса. Дзякуем Вам за веру ў людзей, за нашу святыню, а Богу – за тое, што паслаў нам Вас. Няхай Ваш жыццёвы шлях будзе доўгі і радасны.

*З удзячнасцю, парафіяне з касцёла свсв. Космы і Дам'яна ў Астраўцы*

**Паважанага Ксяндза Пробашча Аляксандра Раманоўскага**

сардэчна віншуем з нагоды 15-ай гадавіны святарства. Дарога святара – гэта вялікадушная і пакорная служба Богу, якая вядзе праз Галгофу, але напрыканцы яе чакае ўваскрослы Езус. Жадаем Вам здароўя і сілы ад Бога Айца, прамяністага сэрца ад Езуса, мудрасці і ўмення ад Святога Духа, ласкавасці і цярплівасці ад Маці Божай. Упэўнена крочце дарогай да святасці, а дапамогай няхай Вам будзе наша малітва.

*Вернікі з касцёла Беззаганнага Зачацця НПМ, Гродна-Паўднёвы*

**Паважанага Ксяндза Прэлата Юзафа Трубовіча**

сардэчна віншуем з нагоды 62-ой гадавіны святарскіх пасвячэнняў. Ваша любоў да Бога і іншага чалавека адкрывае ў Вас саміх прыгажосць, здольнасць да ахвяры. Усё, што робіце, мае вартасць у вачах Бога, бо прасякнута любоўю. Вы знак радасці і надзеі для кожнага з нас. Жадаем добрага настрою, здароўя, душэўнага супакою і вялікага запасу радасці. Няхай Нябесная Каралева заўсёды будзе для Вас падтрымкай і апорай.

*Вернікі з касцёла Беззаганнага Зачацця НПМ, Гродна-Паўднёвы*

**Паважаны Айцец Вітольд Пяцельчыц!**

Сёння мінае ўжо 15 гадоў з таго моманту, як Ты сказаў Езусу "так", як развітаўся са сваімі блізкімі, каб з Ім вырушыць у свет. Жадаем Табе моцнага здароўя, нязгаснага запалу ў святарскай паслузе, душэўнага супакою, аптымізму, звычлівых людзей побач. Гэта Ты, святар, вучыш нас праўдзе, як заўсёды ў жыцці быць добрымі, як любіць Бога і Бацькаўшчыну, у згодзе і любові крочыць праз жыццё. Няхай Пан Цябе блаславіць кожны дзень, а Найсвяцейшая Маці ахінае апекай і любоўю.

*Мама і бліжэйшыя родныя*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Балтрукевічу**

з нагоды Дня нараджэння сардэчна жадаем шчодрых Божых ласкаў. Няхай Найсвяцейшая Маці заўсёды Вамі апекуецца, Пан вядзе праз жыццё, а Святы Дух удзяляе шчодрыя дары і асвячае святарскі шлях.

*Вернікі з касцёла Перамянення Пана ў Навагрудку*

**Паважанаму Ксяндзу Дзянісу Шмыгіну**

з нагоды Імянін жадаем усяго самага найлепшага. Няхай Пан Бог заўсёды адорвае Вас сваімі ласкамі, Маці Божая ахінае сваёй мацярынскай апекай і любоўю, Святы Дух спасылае свае шчодрыя дары, а Ваш святы Заступнік напаўняе супакоем і радасцю. Жадаем таксама моцнага здароўя, непахіснай надзеі, нязгаснай веры і нястомнасці ў душпастырскай працы.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Міжэрычаў*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Пышынскаму**

з нагоды Дня нараджэння жадаем шчодрых Божых ласкаў, апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка. Няхай кожны дзень святарскай паслугі прыносіць добры плён, Езус Хрыстус напаўняе сэрца супакоем і дапамагае пераадольваць цяжкасці, душа застаецца адкрытай і чыстай, словы дораць радасць і супакой людзям, а Святы Дух надзяляе мудрасцю. Жадаем разумення і цярплівасці, натхнення ў паслузе Богу і людзям, а таксама поўнага даверу Езусу на жыццёвым шляху.

*Парафіяне з Рандзілаўшчыны*

**Паважанаму Ксяндзу Ігару Анісімаву**

з нагоды Дня нараджэння і 7-ай гадавіны паслугі ў нашай парафіі шчыра жадаем Божага блаславення на кожны дзень, нястомнасці ў абвяшчэнні Божага Валадарства словам і жыццёвым прыкладам, штодзённай радасці і душэўнага супакою. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя ахінае Вас сваёй мацярынскай пяшчотай і ласкай, а Святы Дух няспынна спасылае свае дары і асвячае шлях да Пана.

*Парафіяне з касцёла Беззаганнага Зачацця НПМ у Слоніме*

**Паважанага Ксяндза Ігара Анісімава**

сардэчна віншую з Днём нараджэння і 7-ай гадавінай паслугі ў нашай парафіі.

Прислал Господь служить
Вас в Слоним.
Прошло с тех пор
уже 7 лет.
Ваш долг – нести всем
Божье слово,
Помочь принять
Божий завет.
Бог не оставил Вас
без мамы,
Она во всем
помощник Вам,
Ответ вопросов
трудных самых
Мы получаем все от мам.
На редкость так
бывает в мире,
Без лести я хочу сказать:
Вы мудрый, честный,
справедливый
И Вас всегда легко понять.
Надежный, добрый
и серьёзный,
Для Бога верный
Вы во всём,
За строгостью прикрылась
скромность,
Глазами веры
взгляд на всё.
Вы чистый просто
перед Богом,
Бог всех так
может наградить,
И правильный совет
во многом
От Вас мы можем
получить.
Простой, всегда
миролюбивый
И верный Богу,
как святой,
Всегда поможет всем
ксёндз Игорь,
Он верен Богу
всей душой.
Ведь через Вас тогда
в больнице
Бог меня чудом исцелял,
И жизнь мою
с чистой страницы
С Любовью Бог
мне написал.
Решив расстаться
с грешным грузом,
Мы Вас должны
благодарить,
Что Вы от Имени Иисуса
Грехи нам можете
простить.
Молиться и просить
здоровья
Для Вас, ксёндз Игорь,
нужно нам,
Вы раздаёте Тело
с Кровью
Христовы всем
пришедшим в храм.
Какое счастье –
служить Богу,
Всего себя Ему отдать,
Порою трудную дорогу
Ксендза, священника
избрать…

*Раіса Варонік*

**Паважанаму Ксяндзу Вітольду Лазавіцкаму**

з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем добрага здароўя, нястомных сіл у абвяшчэнні Евангелля Пана, нязгаснага запалу веры і любові ў сэрцы, моцы і цярплівасці на святарскім шляху, а таксама штодзённай радасці і душэўнага супакою.

*Жыхары вёскі Галавенчыцы*

Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця**; Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч**; Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**.
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла, Алена Гальчэня; тэл. **(8 0152) 75-64-38**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com**; **http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП «Гродзенская друкарня»**, ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 4991; тыраж 5240; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная